Наш адрас у Інтэрнеце: www.pahonia.promedia.minsk.by

# ПАГОНЯ

Чацвер
23 жніўня 2001 г.
№ 34 (530)
Кошт 110 рублёў

## Брузгі яшчэ папрацуюць

**Як нам паведамілі ў штабе Гарадзенскага памежатрада, чуткі пра закрыццё з 1-га верасня памежнага пераходу ў Брузгах не адпавядаюць рэчаіснасці.**

Польскі бок сапраўды плануе закрыць памежпераход на рамонт. Але начальнік штаба Уладзімір Маісеенка запэўніў: « Гэта можа адбыцца не раней, чым праз месяц».

Алена Сіневіч

## Кірмаш у Наваградку

**25 жніўня ў Наваградку адбудзецца вялікі кірмаш.**

Ён пачнецца а 8-й гадзіне на рынку па вуліцы Менскай. На ім будзе прадстаўленая сельскагаспадарчая і прамысловая прадукцыя як дзяржаўных, так і прыватных прадпрыемстваў і гандляроў.

- Да ўдзелу ў кірмашы будуць прыцягнутыя індывідуальныя гандляры з рынку пры аўтавакзале, - гаворыць загадчыца аддзела па гандлі наваградскага гарвыканкама Алена Назымаева.

Нягледзячы на тое, што нядаўна ў Наваградку праходзіў школьны кірмаш, школьнымі таварамі будуць гандляваць і 25 жніўня.

Алеся Сідлярэвіч

## Гарадзенцы будуць ведаць свае хваробы

**У хуткім часе ў гарадзенцаў з'явіцца добрая магчымасць атрымаць дакладны дыягназ іхняй хваробы. Здарыцца гэта дзякуючы ядзерна-магнітнаму тамографу, які набудзе Міністэрства аховы здароўя Беларусі для Гарадзенскай абласной клінічнай бальніцы. Грошы, 1 861 000 умоўных адзінак (менавіта столькі каштуе тамограф), выдзеліла Міністэрства фінансаў нашай краіны. Тамограф будзе выкарыстоўвацца для абследавання органаў і тканяў чалавека.**

-Дзякуючы магнітнаму тамографу,- гаворыць ПАГОНІ галоўны ўрач Гарадзенскай абласной клінічнай бальніцы Валянцін Ражко, - мы не будзем адпраўляць гарадзенцаў у другія гарады нашай краіны, каб яны прайшлі неабходнае абследаванне. Гэта можна будзе рабіць на месцы.

Плануецца, што ўсё абсталяванне будзе набытае і ўсталяванае да першага снежня.

Захар Штрэна

## Салодкі ўікэнд

**Два дні ўікэнду - суботу і нядзелю - ля цэнтральнай крамы гораду адбывалася бясплатная дэгустацыя цукерак фірмы «Спартак».**

Дэгустацыя праходзіла ў межах акцыі «Спартак-Тарнада» пад назвай «Были бы сладости - будут и радости». Латкі з цукеркамі размясціліся ля ўнівермагу, гастраному на вуліцы Савецкай, гандлёвага дому «Баторыя».

Дзеці і дарослыя смакавалі шакаладнафруктовыя асарці. Тым, хто правільна ўгадваў сорт начынкі, давалі «прыз» - купон удзельніка розыгрышу галоўнага прыза ці цэлафанавы мяшэчак.

На наступным тыдні арганізатар акцыі - фірма «Тарнада» - абвясціць сем чалавек, тых, хто выйграе паход на салодкі стол у рэстаран.

Алена Сіневіч



## НАДВОР'Е

24-25 жніўня - невялікая воблачнасць, без ападкаў. Вецер няўстойлівы, слабы. Тэмпература паветра - удзень +20...+25, уначы +8...+13.



Камбайнеры абедаюць. Калгас «Маяк» Карэліцкага раёна, 18 жніўня

## Кавуны з нітрытамі

**Гарадзенскім цэнтрам эпідэміялогіі і гігіены ў прыватных гандляроў была забракаваная партыя кавуноў (каля 100 кг) з Расеі, атручаных нітрытамі. 10 жніўня ім была выдадзеная пастанова аб забароне рэалізацыі забруджаных кавуноў.**

- Гэта так званыя цяплічныя кавуны, выгадаваныя ў штучных умовах, - гаворыць галоўны доктар гарадскога цэнтра эпідэміялогіі і гігіены Мікалай Кендыш.

Найбольш шкодныя нітрыты для дзяцей і хворых на печань і кроў. Кантроль якасці прадукцыі праводзіцца Цэнтрам эпідэміялогіі і гігіены пастаянна. Аднак эпідэміёлагі не маюць магчымасці іх канфіскаваць. Таму не выключана, што атручаная гароднінa прадаецца далей без патэнту на якасць.

Заведуючая аддзелам гігіены харчавання Цэнтра эпідэміялогіі і гігіены Жанна Звяжэвіч лічыць, праўда, што атручаных нітратамі кавуноў у нас на базары ўжо няма.

- Небяспека зараз у іншым. Нельга набываць на рынку разрэзаныя кавуны і дыні. Усе мікраарганізмы знаходзяцца на лупіне і падчас таго, як іх разрэзваюць, шкодныя рэчывы трапляюць у мякаць, - перасцерагае Жанна Звяжэвіч. - У Расеі, Казахстане ходзіць халера, мы жывем у прымежнай зоне з вялікай міграцыяй насельніцтва. Усё гэта падвышае рызыку забруджвання садавіны. Таму перад рэзкай яе абавязкова трэба памыць.

Алеся Сідлярэвіч

## Удакладненне

**Цытата прэзідэнта Фонду развіцця баскетболу «Гродна-93» Леаніда Катка аб скасаванні контракту з баскетбалістам Пятром Крышчыкам «у сувязі са зніжэннем спартыўнага майстэрства», надрукаваная ў артыкуле «Мінус Крышчык. На чарзе Клемезь» у газеце ПАГОНЯ N26 ад 28.06.2001 года, не адпавядае рэчаіснасці. На самой справе кантракт з былым баскетбалістам клубу «Гродна-93» Пятром Крышчыкам скасаваны ў сувязі з заканчэннем тэрміну дзеяння кантракта.**

**Інфармацыя атрыманая ад прэс-аташэ Фонду развіцця баскетболу «Гродна-93» Восіп Папко.**

Ул.інф.

## Здані кахання

**Толькі два тыдні ў выставачнай зале Саюза мастакоў будзе доўжыцца выстава графікаў з Менска Вольгі Нікішынай і Андрэя Басалыгі.**

Цікавай акалічнасцю выставы менчукоў з'яўляецца тое, што яны - муж і жонка. Мабыць адсюль паходзяць і асноўная тэма экспазіцыі - Адам і Ева, адносіны мужчыны і жанчыны.

Гарадзенскі графік Юры Якавенка, які адкрываў выставу, так вызначыў яе мастацкія асаблівасці:

- Гэта першы крок маладых мастакоў у вялікае жыццё, першая сур'ёзная выстава, і гэты крок, у прынцыпе, удалы. Ад вызначальных вобразаў мастакі ідуць да больш абстрактнага, сімвалічнага - відаць, што творцаў ніхто не гняце, яны адчуваюць больш палёту. Выстава вялікая і вельмі сур'ёзная.

Алена Сіневіч

## Габрэйская музыка ў Канцэртнай зале

**28 жніўня ў памяшканні Канцэртнай залі Гродна адбудзецца аўтарскі канцэрт вядомага паэта і кампазітара Аркадзя Двілянскага.**

У праграме фартэпіяннага канцэрту прагучаць песні на вершы вядомых сусветных паэтаў: Восіпа Мандэльштама, Ганны Ахматавай, Язэпа Бродскага ды іншых.

Акрамя гэтага, у канцэртнай праграме Аркадзя Двілянскага возьме ўдзел габрэйскі музычны ансамбль «Шалом». Імпрэза пачнецца ў 19 гадзін. Квіток каштуе 1500 рублёў.

Алесь Зарэмбюк

## Газета ПАГОНЯ: нас не дагоняць!

**Міжнародная арганізацыя «Артыкул 19», якая ставіць мэтай абарону свабоды слова ва ўсім свеце, звярнулася да пракурора Гарадзенскай вобласці Васіля Літвінава, выказаўшы заклапочанасць ціскам на газету ПАГОНЯ з боку супрацоўнікаў Камітэта дзяржаўнай бяспекі.**

Згодна з інфармацыяй «Артыкула 19», усіх супрацоўнікаў ПАГОНІ выклікалі ў КГБ у сувязі з публікацыяй у газеце, у якой утрымлівалася заява невядомай арганізацыі з пагрозамі на адрас Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расеі (ПС СБР), сесія якога ў той час праходзіла ў абласным цэнтры. Супрацоўнікі КДБ задавалі журналістам пытанні не толькі аб крыніцы гэтай інфармацыі, але і аб структуры і дзейнасці рэдакцыі.

Акрамя таго, мела месца спроба завербаваць журналіста ПАГОНІ Паўла Мажэйку, а рэдактару газеты Міколу Маркевічу паведамілі ў абласной пракуратуры, што газета ПАГОНЯ хутка будзе зачыненая.

Як адзначаецца ў заяве «Артыкула 19», усе гэтыя дзеянні пярэчаць беларускаму заканадаўству аб друку і міжнародным абавязацельствам Беларусі. Арганізацыя заклікала беларускія ўлады неадкладна спыніць запужванне журналістаў і стварыць умовы для развіцця незалежных сродкаў масавай інфармацыі.

Алесь Абрамовіч

## Зубры дораць кнігі

**Актывіст мастоўскай філіі руху супраціву «Зубр» Ігар Шчэкарэвіч перадаў у карыстанне Мастоўскай дзіцячай бібліятэцы дзве кнігі Генадзя Сагановіча і Уладзіміра Арлова «Дзесяць вякоў Беларускай гісторыі».**

Як паведаміў ПАГОНІ спадар Ігар, супрацоўніцы Мастоўскай дзіцячай бібліятэкі падзякавалі яго за падарунак і адзначылі, што такіх кнігаў у іх дагэтуль не было.

Алесь Зарэмбюк

## Гарачая лінія з Уладзімірам Ганчарыкам!

**Паважаныя сябры! ПАГОНЯ працягвае серыю гарачых ліній з лідарамі палітычнага жыцця Беларусі. Мы мяркуем, што ў ходзе гэтай акцыі Вы зможаце задаць па тэлефоне пытанні, якія Вас цікавяць, найбольш вядомым і аўтарытэтным людзям нашай краіны.**

Наступнай асобай, з якой сустрэнуцца чытачы ПАГОНІ, стане адзіны кандыдат у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь ад дэмакратычных сілаў

**Уладзімір Ганчарык,**

які ласкава пагадзіўся наведаць рэдакцыю нашай газеты.

**Гарачая лінія з ім адбудзецца 30 жніўня**

Для таго, каб з першых вуснаў пачуць адказы на пытанні, якія тычацца сённяшняга палітычнага становішча і выбарчай кампаніі, ТЭЛЕФАНУЙЦЕ 30 жніўня з 19.00 да 20.30 на нумар тэлефона:

* 72-29-96 (для гарадзенцаў)
* 0152-72-29-96 (для іншагароднiх)



Фота IREX/Promedia

## Домаш зняў сваю кандыдатуру

22 жніўня Сямён Домаш у прысутнасці журналістаў і адзінага кандыдата ад шырокай грамадзянскай кааліцыі Уладзіміра Ганчарыка падпісаў заяву аб зняцці сваёй кандыдатуры з прэзідэнцкіх выбараў. Адначасова з гэтым Уладзімір Ганчарык падпісаў іншую заяву - аб уключэнні Сямёна Домаша ў лік сваіх даверных асобаў.

Ганчарык таксама назваў рашэнне Домаша «вартым мужчыны». Паводле яго ных словаў, яно будзе садзейнічаць перамозе дэмакратычных сілаў на прэзідэнцкіх выбарах. Цяпер, як паведаміў Ганчарык, Домаш будзе працаваць у яго ным штабе над праграмай дзеяннаў будучага ўрада. Зараз заява Домаша паступіла ў Цэнтрвыбаркам.

Гэтае рашэнне было прынятае ў сувязі з тым, што ЦВК меў намер мена 22 жніўня адправіць на друкаванне выбарчыя бюлетэні. У выпадку, калі б Домаш не зняў сваю кандыдатуру, Цэнтрвыбаркаму давялося б перадрукоўваць бюлетэні, а Домашу - кампенсаваць кошт гэтай працэдуры.

Юрый Пацёмкін




## Мабілізацыя моладзі ў межах манёўраў «Нёман-2001»

**18-га жніўня гарадзенскія моладзевыя арганізацыі правялі ў вёсцы Зарыца, што ля Гродна, канцэрт-акцыю з удзелам як менскіх, так і гарадзенскіх гуртоў. Канцэрт сабраў больш за тры ста слухачоў, нават з Менску прыехала больш за 50 чалавек паслухаць свае ўлюбёныя каманды.**

Акцыя мела падвойную ахову: з аднаго боку - вайскоўцамі, якія рыхтаваліся да манёўраў «Нёман-2001», з другога - амапаўцамі, якія прыехалі якраз на пачатак канцэрту.

Планавалася, што на канцэрце выступяць 12 рок-гуртоў, але ж выступілі толькі сем. З Менску ўзялі ўдзел каманды: «Сквот», «Цяжкія наступствы», «Scum out» і «Мёртвыя рыбы», тэксты якіх мелі ў асноўным анархічную скіраванасць. У сваіх спевах гурты выказваліся супраць войска, міліцыянтаў ды ўвогуле дзяржавы. З Гродна выступілі маладыя каманды: «Небяспечна для жыцця», «Basta - basta» і «Антыглабалізатар». Аднак усе каманды не ўдалося паслухаць з-за ліўня, што пачаўся ў самы разгар імрэзы. Аднак слухачы ўсё роўна засталіся задаволенымі, хоць і раз'ехаліся мокрымі на хатах.

Андрэй Мялешка

# Моладзь несанкцыянаваная гарадзенскімі ўладамі

**Другі тыдзень на плошчы Леніна з'яўляецца міліцыя, каб прагнаць гарадзенскую моладзь, якая звычайна збіраецца ўвечары на бардзюры паміж гарвыканкамам і архівам.**

- Вось і добра робяць, - выказвае сваё задавальненне пенсіянерка Яўгенія Сідаровіч. - Чаго яны тут збіраюцца? Ім цяпер трэба вучыцца, а не сядзець тут, курыць, матам лаяцца ды бардзюры абмалёўваць...

Для моладзі ва ўсіх краінах традыцыйна ствараць свае вузкія нефармальныя аб'яднанні. Стрыжнем яднання становіцца ўсё: хіп-хоп, рок, скейты, ролікі, графіці, пакемоны ды іншае. І аблюбаваным месцам для сустрэчаў моладзь часцяком выбірае цэнтральныя гарадскія плошчы гарадоў і мястэчак. Чаму?

Па-першае, сюды лёгка дабірацца. Па-другое, праз цэнтр праходзіць шмат народу і звычайна хто-небудзь далучаецца, таму кампанія сяброў большае, як камяк снегу. Па-трэцяе, на плошчы даволі месца, каб пакатацца на роліках, скейтах ці пагуляць у сокс, прывезены ў Гродна з Чэхіі. Асноўнае правіла соксу - не даць упасці на зямлю маленькаму мячыку, зробленаму саматугам з любых старых анучаў.

Гродна - еўрапейскі горад і гарадзенская моладзь зусім не адрозніваецца ад сваіх аднагодкаў на Захадзе ці Усходзе. А гэта вельмі не падабаецца гарадзенскім міліцыянтам, якія заўсёды «прапаноўваюць» маладзёнам пакінуць плошчу, таму што, паводле іхніх словаў, «гэта месца толькі для мерапрыемстваў, санкцыянуемых аблвыканкамам».

- Амаль штодзень падыходзіць да нас міліцыя і выганяе з плошчы, - распавядае Вольга, 17 гадоў, - не разумею, па якой прычыне. Я лічу, што ў нас праваая дзяржава, а горад - гэта ўласнасць усёй моладзі. Міліцыя нам прапануе розныя месцы для збору: паркі, бераг Нёмана, але там заўсёды здараюцца стычкі, бо некаторых п'яных мужыкоў раздражняе наш сокс. А чаму ж усё-ткі на плошчы нельга? Мы на помніку не малюем, не сядзім ля яго, таму што не дазваляюць. Моцныя напоі не распіваем, ганяюць нават з лавачак. Для каго іх тады паставілі? Да некаторых нашых падыходзяць, запісваюць прозвішчы, абшукваюць заплечнікі. Я не ведаю, чаго яны хочуць дамагчыся.

- Нам няма куды падацца, - падтрымлівае Вольгу шаснаццацігадовы Лёша, - кажуць, каб ішлі ў парк. Але ж там заўсёды смярдзіць, брудна і вараньё часам зверху прывітанне пашле.

На ўсе абурэнні моладзі міліцэйскі патруль адказвае:

- Нам гэтыя хлопцы падабаюцца - яны не п'юць, не хуліганяць, але ад гараджанаў прыходзяць скаргі, што моладзь засмечвае плошчу і гэтым самым апаганьвае помнік. Плошча знаходзіцца паміж двума будынкамі аблвыканкама і гарвыканкама. Не ведаем чаму, але чыноўнікам не падабаецца, што прыходзяць менавіта сюды.

Што можа не падабацца чыноўнікам з гар- ды аблвыканкамаў? Я ўпэўненая - вальналюбства гэтых хлопцаў і дзяўчатаў. Уявіце сабе чыноўніка, які трасецца за сваё месца напярэдадні чарговых выбараў, і бачыць, гледзячы з акна свайго кабінета, нармальную еўрапейскую моладзь, што дыхае вольным паветрам і чакае пераменаў. Гэта моладзь Беларусі, якая ў будучым ніколі не будзе хаваць вачэй, размаўляючы са сваім народам.

Алена Лешка


Хутка на плошчу Леніна трэба будзе хадзіць па прапусках?

## «Адзіны свет» сёння стартуе ў Мастах

**Сёння, 23 жніўня, мастоўская арганізацыя Маладога Фронту распачынае фестываль дакументальнага кіно «Адзіны свет». Фестываль кіно зладжаны ў межах мабілізацыйнай кампаніі «Выбірай!».**

**За 7 дзён кінапрагляду мастаўчане змогуць убачыць 13 дакументальных стужак эстонскіх, чэшскіх, галандскіх, дацкіх і беларускіх кінадакументалістаў. Мэта фестывалю - паказаць гледачу, як адбывалася змаганне за дэмакратыю ў іншых краінах Еўропы.**

**Сёння можна будзе паглядзець тры кінастужкі: «Айцец, сын ды стары Торум», «Багр», «Беларусь у ланцугу Сталіна».**

**Даведацца дзе і калі будзе праходзіць прагляд, можна па тэлефоне 3-29-77 (спытаць Ігара). Запрашаюцца ўсе ахвотныя.**

Алесь Зарэмбюк

## РЭЙТЫНГ

## Галасуйце па тэлефоне!

**Нягледзячы на тое, што Сямён Домаш афіцыйна заявіў аб выбыцці з перадвыбарчай гонкі, нашыя чытачы ўпарта аддаюць свае галасы за кіраўніка «Рэгіянальнай Беларусі». На вялікі жаль, кандыдатура Уладзіміра Ганчарыка не стала ў вачах чытачоў ПАГОНІ дастойнай заменай Сямёну Домашу. З 28 чалавек, якія патэлефанавалі ў ПАГОНЮ на мінулым тыдні толькі 10 прагаласавалі за адзінага кандыдата! Астатнія прэтэндэнты не атрымалі ніводнага голаса!**

**Падчас тэлефанаванняў на рубрыку «Рэйтынг» на наступным тыдні, просім улічыць тую акалічнасць, што кандыдатура Домаша ў рэйтынг выстаўляцца ўжо не будзе.**


Сяргей Гайдукевіч — 6,5% / 11,9%


Уладзімір Ганчарык — 14,7% / 6,8%


Сямён Домаш — 44% / 4,0%


Аляксандр Лукашэнка — 13,1% / 65,0 %

Выкарыстаныя фота IREX/ProMedia

**На старонках ПАГОНІ вы можаце галасаваць ужо сёння!**

**Галасуйце па тэлефоне 72-37-14 з 10.00 да 18.00 штодня, акрамя выхадных.**

**Шэры слупок - галасы «ЗА», белы слупок - «СУПРАЦЬ».**

# Малады Фронт хоча супрацоўнічаць з афіцэрамі

**21 жніўня Малады Фронт прыняў зварот да Усеармейскага афіцэрскага сходу, які адбудзецца заўтра, 24 жніўня. У сваёй заяве маладафронтаўцы заклікаюць беларускіх афіцэраў да неадкладнага выканання вайсковай рэформы.**

Беларуская моладзь выступае за адмену абавязковага прызыву ў войска, за стварэнне прафесійнага і моцнага беларускага войска, якое зможа гераічна абараняць Бацькаўшчыну, калі гэта спатрэбіцца. У сваю чаргу сябры Маладога Фронту гатовыя дапамагчы беларускім вайсковым афіцэрам у пераводзе беларускага войска на прафесійную аснову шляхам папулярызацыі і «раскруткі» вайсковых рэформаў у моладзевым асяродку.

Вось што паведаміў ПАГОНІ Сяргей Лісічонак, адзін з каардынатараў Маладога Фронту па гэтай доўгатэрміновай кампаніі:

- Гэты сход афіцыйна прысвечаны ваеннай рэформе ў Беларусі. Мы выпусцім буклецікі з пажаданнем моладзі да афіцэраў і тэкстам звароту да іх. Буклецікі мы плануем перадаць кожнаму з 550 афіцэраў, дэлегатаў гэтага сходу. Малады Фронт і моладзь Беларусі памятаюць, што афіцэры з'яўляюцца прадстаўнікамі народа, таму мы гатовыя супрацоўнічаць з афіцэрамі, але ж не з Лукашэнкам.

Падчас гэтай кампаніі Малады Фронт плануе правесці шырокую рэкламную акцыю: перавод войска на прафесійную аснову.

Алесь Зарэмбюк

## Міліцыянты супраць піва?

**Увечары, 19 жніўня, у Гродне супрацоўнікамі міліцыі Ленінскага РАУС былі затрыманыя дзесяць сяброў гарадзенскага Маладога Фронту.**

Каля 30-ці маладафронтаўцаў сабраліся ля палаца «Тэкстыльшчыкаў» на сваю чарговую акцыю «Падтрымаем беларускае піва!», падчас якой яны меліся раздаць буклеты «Ты выбіраеш сам». Ужо на самым пачатку мерапрыемства пад'ехалі міліцыянты на двух машынах і затрымалі ўдзельнікаў акцыі, у тым ліку і старшыню гарадзенскага Маладога Фронту Вадзіма Саранчукова. Пры гэтым прычыну затрымання моладзі не патлумачылі. Толькі ў пастарунку маладафронтаўцам заявілі, што затрымалі іх «дзеля высвятлення асобы». Міліцыянты забралі ўсе буклеты і налепкі, а таксама касету гурта «Deviation», узялі тлумачэнні і прыблізна праз чатыры гадзіны выпусцілі.

Супрацоўнік Гарадзенскага аддзялення БХК Аляксандр Аношчанка лічыць дзеянні міліцыянтаў супрацьзаконнымі:

- Яны не мелі падставаў на затрыманне і не могуць паводле закона трымаць чалавека для ўстанаўлення асобы ў пастарунку больш за тры гадзіны.

Алеся Сідлярэвіч

ПАЗІЦЫЯ

# Зямля святога Лукі

**Эсэ гарадзенскага пісменніка і публіцыста Алеся Чобата «Зямля святога Лукі» было надрукавана ў беластоцкім штомесячніку «Czasopis». Гэта пятая кніга аўтара. Сёння ПАГОНЯ падае эпілог «Зямлі святога Лукі», які на наш погляд надзвычай актуальны напярэдадні выбараў у Беларусі.**



Алесь Чобат

Сумуючы па той зямлі св.Лукі, то значыць, падсумоўваючы яе лёс за тысячу гадоў, а таксама зважаючы на працы прафесійных гісторыкаў, дыпламаваных і дактараваных, міжволі бачыш адну простую акалічнасць.

Час у іх...як быццам спыніўся дзесьці ў 1918-м годзе.

Потым - як быццам нічога не было. Ні бальшавікоў, ні БССР, ні «санацыі», ні II сусветнай вайны, ні тых індустрыялізацыі, калектывізацыі, ні культурнай рэвалюцыі... Хоць менавіта эпоха 1919-91 сучасную беларускую нацыю і сфармавала. Так і пішуць «гісторыю» - ад Рагвалода да 1918 года...

У чым прычына? У сораме і страху. Бо - не такая нацыя вырасла, «ненармальная», «нееўрапейская»... А беларусы маюць жа быць «цывілізаваным еўрапейскім народам». Не тое, што нейкія там маскалі.

Ну, і каму хлусім?! Альбо, як Мікалай Гогаль пісаў, «над кем смеётесь - над собой смеётесь» (польскі варыянт: «miales, chamie, zloty rog, ostal ci sie jedno sznur!»). А дзе беларускі варыянт пра тое самае? Хіба што горкі ўздых Багдановіча «Беларусь, твой народ дачакаецца...». На мой розум, бяда беларусаў і Рэспублікі Беларусь у тым, што сямейная сувязь пераважае ў нас над нацыянальнай. Няма ў нашай «свядомасці» анічога больш панад той сямейкай, адкуль «выйшлі». Бо не выйшлі - ні з тае «магчымай хаты», ні з таго спосабу думання, каб абы сабе, а як не сабе, то нікому.

Канстанцін Тарасаў, адзін з найлепшых аўтараў за ўсе сто гадоў сучаснай беларускай літаратуры, на сваіх сустрэчах з чытачамі - а меў я магчымасць рабіць з ім разам такія сустрэчы два дзесяткі разоў - ніколі не забываў нагадваць анекдот, як прыйшлі да Бога англічанін, француз і беларус. Англічанін папрасіў яхту найноўшай канструкцыі, француз папрасіў найлепшую прыгажуню з мястэчка да сябе ў ложак, а беларус папрасіў так:

- Божанька! У маяго суседа карова два вядры малака дае, а мая ўсяго адно...

- То чаго хочаш? - кажа Пан Бог. - Каб у цябе дзве такія каровы былі, як у суседа?

- А навошта яны мне, Госпадзе! Хачу прасіць, каб суседская карова здохла... А я сваёю абыдуся!

Задумаўся Бог, а потым кажа:

- Ну, а табе якая карысць?

- А мне чужога не трэба! - кажа беларус. Смела так валіць... - Але хай і ён не мае. Бо, калі я так жыву, то і ён пражыве, не здохне...

Анекдот адкапалі ў сваім часе ажно ў дробнашляхецкіх мемуарах XVIII стагоддзя, але як гэта актуальна па сённяшні дзень! Мы жывем старажытным родам - як за Рагвалодам. З беларускай гісторыі і сучаснасці свет можа выцягнуць адну карысць, адну ісціну. Нацыя можа складацца толькі з людзей, кожны з якіх у сваім доме і на сваёй дзялцы, кожны з якіх «сам па сабе». Такі парадокс, што там, дзе складаецца яе знакаміты клан, там не можа скласціся нацыя. Не можа! Бо нацыю робяць людзі, а клан не пускае чалавека - бачыш, добрай каровы мець нельга, толькі паўздохлую... Хто акажацца выкідышам ды эмігрантам з прычыны вайны ці рэвалюцыі, то ўцячы ад нацыі яшчэ можа. А як уцячы ад клана? Нацыя цябе не душыць, бо там усе худабедна роўныя, то значыць, абыякавыя да чужога гора і шчасця (а, можа, тая пані Свабода і пачынаецца з абыякавасці?!), а клан за табой сочыць, глядзіць «хвалюецца», «апякуецца»... Беларусы таму не ходзяць галасаваць на выбары (няважна, «за» альбо «супраць» Лукашэнкі!), бо часу не маюць. Бо бульбу капаюць. Тут не ў бульбе справа. Не ў жабрацкім жыцці. Не ў выжыванні. Тут справа выбару і прынцыпу. Паміж кланам і нацыяй.

Сотні новых дамоў (пры «жабрацтве»!) павырасталі за апошнюю дэкаду на прадмесцях Гродна. А рэдка пры якім пляц запарадкаваны, а тых майстэрняў з варштатамі, каторых, ад Саколкі пачынаючы, панатыкана ледзь не ў кожным доме, зусім не відаць... Бо не дзеля жытла і варштата дом ставілі, а дзеля пыхі. Сусед мае - я мушу. Беларус - гэта такі чалавек, які вечна даводзіць усім і кожнаму, што ён за яго не горшы. Адгэтуль вечныя пахвалянкі, адгэтуль усе гэтыя міфы пра «гасціннасць», працавітасць» і гэтак далей. Гэта зноў-такі нагадвае нейкія часы Рагвалода: каб мець за сталом месца і дзеўку ў ложку, то маеш абавязкова суседу морду набіць... «Лепшым» быць маеш.

Так і жывем. У мардабоі.

Наша гісторыя (як «народа»!) - гэта... гісторыя БССР. Менавіта ў часы бальшавіцкага «сацыялізму» (не блытаць са шведскім!) тая «нацыя» сфармавалася. Як аграмадная вёска «сваіх хлопцаў»... Не хочам таго ўзнаваць. Не хочам пра тое слухаць. Не хочам жыць без клана. Не верым самі сабе. І што «збудуем»?! У цяперашнім свеце. Каторы ўжо і «нацыю» перарос. У якім нацыянальнасць ёсць прыватная, асабістая справа чалавека. У якім нацыяналізм XIX-XX стагоддзяў роўны калектывізму (камунізму, фашызму і г.д.). А мы, беларусы, «з братняю Руссю», яшчэ і да таго нацыяналізму не дараслі. Дараслі да «дабрабыту». Які паволі развальваецца і «стаіць» толькі на ілюзіях пра «великую державу» расійскіх пуціных ды на спрыце Аляксандра Усіх Беларусаў.

Прагнозы на XXI стагоддзе мала суцяшаюць. Па-першае, за апошнюю дэкаду першакласнікаў стала менш на траціну (32,5 працэнта паводле астатняга перапісу). Гэта значыць, што праз дзесяць-пятнаццаць гадоў будзе на адну траціну менш «новага пакалення». Канешне, тое беспрацоўе зменшыцца таксама, але ж нехта мае рабіць, зарабляць. Хоць бы трымаць тую электрыку, дарогі, каналізацыю і гэтак далей... А хто гэта будзе рабіць, калі не будзе каму?! Па-другое, на той самы кавалак часу (2010-20 гг.) прыпадае... «выбух пенсіянераў». Бо - да пенсійнага - і хворага на ўсе хваробы! - узросту дажыве пакаленне, якое нарадзілася ў 1945-50 гадах, калі быў, як пасля любой вайны, «дэмаграфічны выбух» - любая паваенная нацыя, сама на тое на зважаючы, нараджае дзяцей у тры-чатыры разы больш звычайнага. Такім чынам, атрымваем па калькуляцыі, што ўжо за пятнаццаць гадоў беларусаў у РБ будзе не 10 млн. чалавек, а толькі 8-8,5 млн. чалавек. Пры гэтым будзе 5-5,5 млн. пенсіянераў, да таго ж хворых на алкагалізм (мужчыны) ці на маразм (жанчыны). Невядома, што горш... Ну і пра якое «адраджэнне» гаворыць мой «айцец духоўны», Пазьняк Зянон Станіслававіч?!

Аднак - а пагартаем старонкі пані Гісторыі яшчэ наперад. Ну, будзе гадоў за пяцьдзесят тых беларусаў нават не 8 млн. чалавек, а толькі 5 млн. чалавек. Ну і што? Тое балота пасля меліярацыі ізноў заплыве вадою, а лес па вырубцы зарасце лесам? Ну і што? Людзей паўсюдна зашмат. Чалавек распусціўся, узяў на сябе замнога... Можа, беларусы таму і ў такі заняпад трапляюць, бо да тае распусты яшчэ занадта хутка і спрытна дабеглі, дапалі, як да таго карыта... А Бог дзеліць няроўна - але справядліва. Зямля мае адпачыць. Чалавек мае памятаць сваё месца. А мы пра тое забыліся, нам усё мала было.

«Адраджэнцы» нашы ў 80-я і 90-я гады былі ледзь не ў шоку - бо як жа той народ на «родную мову» пляваў, а «носьбітаў» яе паліцаямі паліцаіў (і па сённяшні дзень паліцаіць, і будзе паліцаіць!). А што вы хацелі? Хто зямлі свае не любіць, дзе луг, поле, рэчка малая, хто з хаты свае бацькамі выкінуты ў Мінск, «на лёгкі хлеб», хто навучаны, што за грошы ўсё купіць можна, хто ў паны лезе, каб «загадваць», хто ўпэўнены, што кнігі для яго толькі, каб іх чытаць і «нічога не рабіць», хто слова ні ў грош не ставіць - ну, то чаго такі сукін сын кінецца раптам «родную мову» вучыць?! І чым вышэй сядзіць такі сукін сын, чым болей пад ім задніцаў, чым мацней ён тую «родную мову» душыць (не забываючы ліць пры тым кракадзілавыя слёзы!)... І так усё душыць! Камянічкі недабітыя - і тыя разбірае на цэглу. А цэглу вязе сабе катэдж будаваць. Дабротная ж цэгла, можа, польскай, а можа, яшчэ і царскай работы...

Адным словам, аднекуль вылезці - як з ямы! - то трэба спачатку...у тую яму праваліцца і да дна даляцець. Казаў адзін мой знаёмы, што ляцець да таго дна беларусам яшчэ гадоў пяцьдзесят. Толькі тады нехта жывы паспрабуе выбрацца. І хіба, меў ён рацыю. Бо - ніякі народ у цяперашняй Еўропе не прападзе; праўда, крычаць крыкуны, што ўсе прападуць, «пазліваюцца» ў еўрапейцаў, потым расколюцца на «трайбы» і г.д. Не прападзе, бо ёсць інстынкт самазахавання. І ён спрацуе. Ён нават у беларусаў спрацуе. Больш таго - гадоў за сто беларусы будуць чымсьці падобныя да...скандынаваў: нарвежцаў, шведаў, ісландцаў. Будуць умець гаварыць па-свойму, па-руску і па-польску (бо нідзе ад Польшчы з Расіяй не падзенешся!), і па-англійску (бо гэта будзе лаціна XXI стагоддзя!). Кніжкі будуць мець, апроч камп'ютэраў, і падазраю, нават піць перастануць... І так будзе. Бо па-другому не будзе ніяк. Бо інакш здохнуць. Пагалоўна.

А цяперашнія «саветы» (і «маё» пакаленне) хай сабе здыхаюць. Мы занадта добра жылі пры камуністах. І сваё аджылі. Зямля без нас не прападзе - мы прападзем без зямлі. Бо кожная любоў да радзімы мае быць бескарыснай. А мы карысці кругом хацелі... Калі мне цяжка, ад хваробы ці ад бяды, то я бачу ў вачах адно і тое ж: стокі Нёмана ды Гаўі, бясконцы, выпалены сонцам, луг, старыцы, хмызнякі, чырвоны дыск сядае за блізкай шашою... Не ведаю, чаму так. Але ад такой памяці мне лягчэй. Таму і жыву. Не можа чалавек жыць без памяці. Не чалавек гэта ўжо, а нелюдзь. Жывіна!

Тое, што цяперашнія савецкія беларусы маюць за «лішняе» - гэта зусім не лішняе. Гэта тое, што называецца: душа. А без душы гніе цела. Пры любым «дабрабыце». Не можа чалавек без душы. Не бывае нацыі без чалавека. Гісторыя ж гэта ўсяго толькі спіс чалавечай дурноты. Таму гісторыя патрэбна. Бо гэта тое самае, што для лекара гісторыя хваробы яго пацыента. Таму і не шкадую, што кавалак свайго жыцця паклаў на «Зямлю святога Лукі». Жыццё ж кароткае, Айчына вечная... Vita brevis, Patria eterna.

**Алесь Чобат**



Фота IREX/ProMedia

ПОШТА

## Выбарчая барацьба ўжо пачалася? А мы і не заўважылі...

**Калі чалавек жадае атрымаць пасведчанне на права кіраваць аўтамабілем, дык ён спачатку праходзіць медычную камісію. Потым вучыцца правілам руху і навыкам кіравання. Затым здае экзамены. Усё гэта каштуе грошай і нерваў. А вось дзеля таго, каб стаць прэзідэнтам краіны, дастаткова толькі крыкнуць: «А.Г. - вар'ят і забойца». Пасля чаго ўсе пабягуць галасаваць за новага начальніка. Напэўна так лічаць у перадвыбарчым штабе Ул.Ганчарыка ды іншых прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду.**

**Выбарчыя тэхналогіі даўно вядомыя. Праверaныя як на Захадзе, так і ва ўсходняй спецыфіцы. Ёсць адпаведныя падручнікі і спецыялісты. Прачытай, паслухай якога-небудзь прафесара. Паедзь у суседнюю краіну, пагляддзі, як гэта людзі робяць. І - наперад...**

**Але мы - самі з вусамі. У нас асобы тых, хто будзе прэтэндаваць на пасаду прэзідэнта, робяцца вядомымі ў самы апошні момант. Да гэтага яны сядзяць па схронах, бо баяцца «эскадронаў смерці». Ад таго і выходзіць так, што шукальнікаў найвышэйшай пасады ў нас было больш за дваццаць. Ім бы ў рукі які інструмент: рыдлёўку ці пілу. Ды тую энергію, якую яны бессэнсоўна патрацілі на імітацыю свайго ўдзелу ў выбарах, скіраваць на нешта стваральнае. Даўно б жыллёвую праблему вырашылі!**

**Потым яны ўсё высвятлялі, колькі каштуе іхні палітычны рэйтынг. Гандляваліся, заключалі здзелкі куплі-продажу. Нарэшце, за паўтары месяцы да выбараў базар скончыўся. Вылучылі адзінага кандыдата ад апазіцыі - Уладзіміра Ганчарыка. Падумалася: зараз яны закацяць такі выбарчы канцэрт! Нічога падобнага.**

**За тыдзень выбарчай агітацыі ані мітынгу, ані сходу, ані сустрэчы з выбаршчыкамі, ані рэкламы ў электронных СМІ. Нават на плоце ці муры напісана і намалёвана не пра Ганчарыка, а пра нейкага Зубра. А што, файнае прозвішча, трэба дадаць якое гожае імя, раскрутка ёсць - можна ісці ў прэзідэнты...**

**Затое А.Лукашэнка часу не губляе. Напалохаў сваю «вертыкаль». Апазіцыі і назіральнікам прыпісаў дзяржаўны замах і тэрарыстычную дзейнасць. Тлуміць мазгі абывальніка праз тэлебачанне. Ездзіць па будоўлях свайго рынкавага сацыялізма. Абяцае падвышкі заробкаў, стыпендыяў. Прарыў у міжнародных справах. Апазіцыя тым часам паўтарае адно: «А.Г. - вар'ят і забойца».**

**Трэба сказаць дакладна - так прэзідэнтамі не становяцца. Уладзімір Ганчарык павінен ведаць: ён вырашае не толькі свае кар'ерныя пытанні. Ён выяўляе нашыя, простых выбаршчыкаў, інтарэсы. І прайграць права не мае.**

**Сяргей Самасей**

## Трэція сярод роўных

**Трэцяе месца занялі віцэ-чэмпіёны Беларусі валейбалісты гарадзенскага «Камунальніка» на прэстыжным міжнародным турніры, які скончыўся ў нядзелю ў Казахстане.**

Гарадзенцы па чарзе абыгралі чэмпіёна і віцэ-чэмпіёна Казахстана каманды «Атэраў» і «Кандысат» - 3:1 і 3:0, азербайджанскую каманду «Балаханнафта» - 3:1, грузінскі «Тбілісі» - 3:0, і прайгралі расейскаму «Дынама» - 0:3. Паводле лепшых суадносінаў партыяў, першае месца занялі расейцы, другое - казахі і трэцяе - гарадзенцы.

З Германіі вярнуўся ў «Камунальнік» Віктар Бекша. Папярэдняя дамоўленасць існуе з другім гарадзенцам Святаславам Міклашэвічам, які ў мінулым сезоне выступаў у расейскім «Дынама» (Белагор'е). Трэнуюцца разам з камандай і шэраг валейбалістаў абласной дзіцяча-юнацкай спартовай школы 1986 года нараджэння. Сярод іх вылучаецца Аляксандр Буцько.

## Зборная экзаменуе «Гродна-93»

**17-18 жніўня спарынг-партнёрам баскетбалістаў «Гродна-93» стала нацыянальная зборная нашай краіны, якая ў дзвюх сустрэчах была мацнейшая за гарадзенцаў - 81:65 і 87:66.**

У зборнай Беларусі вядучую ролю адыграў гарадзенец Дзяніс Коршук, які ў дзвюх сустрэчах «закінуў» найбольшую колькасць ачкоў - 45.

Паміж «Гродна-93» і зборнай існуе дамоўленасць, што Васілеўка, Шарко і Місючэнка вернуцца днямі ў Гродна, каб разам з камандай прыняць удзел у міжнародным турніры ў Швецыі.

Тым часам кіраўніцтва гарадзенцаў не губляе надзеі ўбачыць у Гродна Арсенія Кучынскага. Ізноў узнік варыянт з Алегам Кажанцом, які зараз знаходзіцца на праглядзе ў польскім «Слупску».

Як адзначыў ПАГОНІ прэзідэнт Фонду развіцця «Гродна-93» Леанід Каток, на наступным тыдні ў Гродна з Расеі будзе прывезены сучасны баскетбольны паркет.



Дзяніс Коршук

# Перамога без гульні

**Чэмпіянат Беларусі. Вышэйшая ліга. 16 тур:**

«Нёман-Белкард» (Гродна) - «Дынама» (Берасце) - 3:1 (Давыдаў,31 хвіліна, 47, Тарашчык, 83; Страхановіч,78).

**Чэмпіянат дубліруючых складаў:**

«Нёман» - «Дынама» - 2:1 (Кітурка,5, Бялоў,69; Малахаў,73).






**У чарговы раз лічбы на табло сведчаць аб пераканаўчай перавазе гарадзенцаў. Аднак яны не адпавядаюць той гульні, якую прадэманстравалі «Нёман». Берасцейцы на працягу ўсіх 90-та хвілінаў пераўзыходзілі гарадзенцаў амаль ва ўсіх кампанентах: у валоданні мячом, колькасці ўдараў па браме і так далей. Гэта было нечаканасцю, бо ў гасцях так гуляла каманда, якая пляцецца ў нізе табліцы чэмпіянату.**

«Дынамаўцы» хутка знайшлі «дзірку» ў абароне «нёманцаў» на левым фланзе, дзе зусім не разумелі адзін аднаго Аляксей Сучкоў і Алег Радушка. Склалася ўражанне, што хлопцы першы раз бачаць адзін аднаго. І гэтым госці карысталіся. Але ж усе памылкі сваіх адна-клубнікаў выпраўляў Аляксандр Суліма, брамнік «Нёмана». Так гульня цягнулася да першай памылкі, якую дапусціў брамнік «Дынама» Юрый Афанасенка. Відаць, засумаваўшы па футболе, на 31-й хвіліне гульні ён узяў мяч у рукі ад свайго аднаклубніка. Пасля розыгрышу свабоднага да мяча са смакам прыклаўся лепшы бамбардзір гарадзенцаў Сяргей Давыдаў. Ён цудоўным ударам у абвод сценкі накіраваў мяч у левы ніжні вугал брамы - 1:0.

Прапушчаны гол гасцей амаль не засмуціў. Яны і надалей прымушалі памыляцца Радушку і Сучкова. Нават замена Сучкова на Мазалоўскага станоўчых зменаў у гульню «Нёмана» не прынесла.

Пасля антракту свой чарговы «нёманскі» дубль аформіў Сяргей Давыдаў. Здавалася, адбойны ўдар Дзмітрыя Раўнейкі ніяк не пагражаў браме берасцейцаў. Дапамог недарэка - абаронца «Дынама», які не трапіў па «плямістаму». Мяч адскочыў да Арцёма Крыкарава, які навесіў у штрафную, а Давыдаў пераправіў яго ў браму.

Аднак «дынамаўцы» і пасля другога голу не спынілі абароты. На 78-ай хвіліне Страхановіч у стылі Васіля Баранава, на ўсё тым жа левым фланзе абыграў Мазалоўскага, змясціўся ў цэнтр і метраў з васемнаццаці прымусіў капітулявць Суліму - 2:1. Гульня стала нярвовай... Пыл берасцейцаў, перад якімі заімжэла магчымасць прывезці з Гродна «ачко», астудзіў Віталь Тарашчык. На 83-й хвіліне абаронцы «Дынама» дазволілі Віталю ў цэнтры штрафной прыняць пас ад «адзінаццаткі» гарадзенцаў, апрацаваць яго і паставіць у гульні кропку.

Каментар галоўнага трэнера «Нёмана» Сяргея Саладоўнікава.

- *Не магу ўзгадаць ніводнай лёгкай сустрэчы з берасцейскім «Дынама». Гэтая гульня не выглядае выключэннем. Прэтэнзіяў па гульне маю амаль да ўсіх футбалістаў. Аднак мы дзейнічалі лепш, таму і перамаглі.*

31 жніўня моладзевая зборная Беларусі ў матчы адборавага туру да чэмпіянату Еўропы 2002 у Барысаве сустракаецца са зборнай Украіны. На гэтую гульню выкліканы тры футбалісты «Нёмана» - Аляксандр Суліма, Дзмітрый Раўнейка, Віталь Тарашчык.

**17-ты тур. 9-га верасня «Нафтан»-«Нёман».**

### Табліца Чэмпіяната Беларусі

| | Г | П | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Белшына | 16 | 12 | 2 | 2 | 26-9 | 38 |
| БАТЭ | 16 | 11 | 2 | 3 | 37-19 | 35 |
| Славія | 15 | 9 | 2 | 4 | 32-12 | 29 |
| **Нёман-Белкард** | **16** | **8** | **5** | **3** | **27-11** | **29** |
| **Тарпеда-МАЗ** | **16** | **8** | **4** | **4** | **22-17** | **28** |
| Дынама-Мн | 16 | 8 | 3 | 5 | 29-15 | 27 |
| Шахцёр | 16 | 7 | 5 | 4 | 23-16 | 26 |
| Гомель | 16 | 7 | 3 | 6 | 15-13 | 24 |
| Днепр-Трансмаш | 16 | 7 | 3 | 6 | 23-23 | 24 |
| Дынама-Бр | 16 | 6 | 1 | 9 | 18-25 | 19 |
| Лакаматыў-96 | 16 | 4 | 1 | 11 | 12-35 | 13 |
| Маладэчна-2000 | 16 | 3 | 3 | 10 | 13-35 | 12 |
| Ведрыч-97 | 15 | 2 | 1 | 12 | 10-30 | 7 |
| Нафтан | 16 | 1 | 1 | 14 | 8-35 | 4 |

# Пад музыку «Кармэн»

**- Людзі, музыку! Коні ідуць! - крыкнуў хтосьці, і Людміла Босак, трэнер конна-спартовай школы, націснула клавіш касетнага магнітафону і заняла месца за судзейскім столікам побач з Мікалаем Данішчыкам, камандзірам коннага ўзводу міліцыі і трэнерам-наезнікам. Пад бравурныя гукі маршу оперы Бізе «Кармэн» на манеж выйшлі на прыгажунах-скакунах 10 вершнікаў. Так пачаўся Адкрыты турнір па пераадоленні перашкодаў конна-спартовай секцыі і школы верхавой язды калгаса «Азёры», які адбыўся ў мінулую нядзелю, 19 жніўня, у Гродне.**

Нягледзячы на свой сціплы статус, спаборніцтвы выклікалі вялікую цікавасць у гледачоў, якіх, трэба адзначыць, сабралася ў гэты цёплы дзень вялікая колькасць ля манежу конна-спартовай школы, што размешчаная ў абласным цэнтры ў канцы вуліцы Дамброўскага. А ўжо пра ўдзельнікаў, большасць з якіх падлеткі, і казаць няма чаго. Шмат аднагодкаў, ды і гледачоў старэйшага ўзросту з глядзельнай трыбуны шчыра зайздросцілі ім, назіраючы за тым, як упэўнена яны сядзяць у сядле, як прыгожа пераадольваюць перашкоды.

У праграме спаборніцтваў былі так званыя вышынныя маршруты і скокі на магутнасць. Умовы першага віду прадугледжвалі пераадоленне васьмі перашкодаў за мінімум часу. Вышыня ўсіх васьмі была ў межах аднаго метра. Затое ў другім відзе спаборніцтваў перамагаў той вершнік і той конь, якія ўзялі найбольшую вышыню. Акрамя таго, для гледачоў арганізатары спаборніцтваў прапанавалі разыграць прыз глядацкіх сімпатыяў пры дапамозе адрыўных квіткоў з нумарамі коней. Спачатку здавалася, што бясспрэчным лідарам у гэтым стане прыгажун з Верцялішак - васьмігадовы Айвенга, сівы ў яблыках, на якім выступала Юлія Дубко (унучка пакойнага старшыні аблвыканкама), якая мае ўжо другі разрад і цудоўна трымаецца ў сядле. Але, як высвятлілася пазней, ён стаў другім, а большасць гледачоў аддалі перавагу шасцігадоваму Удару, на якім выступаў Антон Яглоўскі (Азёрская КСШ). Грацыёзны і шпаркі, ён цудоўна пераадолеў перашкоды і быў трэцім у скоках на магутнасць (145 см).

У спаборніцтвах удзельнічалі чацвёра коней Азёрскай конна-спартовай школы, столькі ж з Гарадзенскай коннай міліцыі і ў якасці гасцей турніру - пяцьконей з калгаса «Прагрэс». На міліцэйскіх конях выступалі юнакі з той самай Азёрскай КСШ: Ала Бачко, Яна Трыгубовіч, Ганна Груздзева, а таксама Уладзімір Лобан, які на Агаце і стаў пераможцам праходжання вышынных маршрутаў. На гэтую шпарку пару трэба было паглядзець. Яны пранесліся па манежы, без цяжкасці ўзяўшы ўсе восем бар'ераў за 41 секунду (пры норме 70). Другім на вышынных маршрутах быў Віталь Навіkевіч на кане Халідзе з часам 45,8 секунды (КСШ каўгаса «Азёры»). А вось у другім відзе спаборніцтваў - скоках на магутнасць - першае месца заваявалі госці спаборніцтваў: кандыдат у майстры Наталля Макоўская на чатырохгадовым Боідзе (калгас «Прагрэс»). Яны ўзялі вышыню ў 155 см, а супершпаркі Агат - на 5 см меней. Акрамя Наталлі Макоўскай і Юліі Дубко ад «Прагрэса» выступілі таксама Наталля Савіцкая (на конях Сімволе і Блефе) і Барыс Герасімаў на жарабцы па мянушцы Горды.

Пабываў на спаборніцтвах і старшыня калгасу «Азёры» Аляксандр Шышко. Ён прывёз шмат мяккіх цацак, якія папоўнілі прызавы фонд спаборніцтваў, які складаецца з фотаальбомаў, парфумаў і вырабаў металаграфікі.

**Ніна Палуцкая**



Уладзімір Лобан на Агаце
Фота Яраслава Ванюкевіча

# Яўген Кашкаха: «Мы вартыя гэтых узнагародаў»

**Гарадзенскі матабольны клуб «Азот» упершыню ў сваёй чатырохгадовай гісторыі вырваў бронзавыя ўзнагароды чэмпіянату Беларусі па матаболе. Гістарычны ўзыход гарадзенцаў на п'едэстал стаў магчымы дзякуючы галу гарадзенца Леаніда Сацкевіча, які ён забіў на апошніх хвілінах нядзельнай вырашальнай гульні з менскай «Зарой». Галоўны трэнер «Азота» Яўген Кашкаха быў прызнаны лепшым абаронцам чэмпіянату Беларусі.**

Пачалі гарадзенцы фінальную серыю ў пятніцу гульнёй з пінскім «Юнацтвам». 5:1 - упэўненая перамога нашых землякоў. Усе галы на свой рахунак запісаў лепшы бамбардыр нашай каманды Анатоль Багданец.

На наступны дзень гарадзенцы ў цікавай барацьбе ўзялі верх над «Нівай» - 2:1. Гэтая параза перакрэсліла лунінчанам усе надзеі на залатыя ўзнагароды.

Увечары «Азот» сустракаўся ўжо з дзеючым чэмпіёнам - пінскім «Аўтамабілістам». На гульню гарадзенцы выставілі другі склад, які і саступіў - 10:2. Аднак усе думкі гарадзенцаў былі накіраваныя на нядзельную сустрэчу за бронзу з «Зарой».

Землякі апярэджвалі менчукоў на адно ачко, таму іх задавальняла і нічыя, якую ў сверхдраматычнай барацьбе яны і атрымалі.

- *Гульня пачалася нярвова*, - **распавядае галоўны трэнер «Азота» Яўген Кашкаха**, - *мы першымі прапусцілі. Анатоль Багданаў аднавіў раўнавагу. Накал барацьбы ўзрос. Яшчэ больш спякотна стала пасля другога прапушчанага намі голу. Але ж нашыя матабалісты настолькі псіхалагічна былі настроеныя на «бронзу», што проста не маглі прайграваць самую важную гульню чэмпіянату. Таму за некалькі хвілінаў да канца сустрэчы Леанід Сацкевіч прыносіць нам так неабходную нічыю. Мы вартыя гэтых узнагародаў. Хлопцы адгулялі апошнія гульні на выдатна, за што і атрымалі званне кандыдатаў у майстры спорту нашай краіны.*

Бронзавыя ўзнагароды ў складзе «Азота» атрымалі брамнікі N1 **Мікалай Ільюдчык** і N10 **Анатоль Фёдараў**, N2 **Віталь Лупач**, N3 **Яўген Кашкаха**, N4 **Алег Сідняў**, N5 **Віталь Кашкаха** (самы малады матабаліст чэмпіянату, яму толькі 14 гадоў), N6 **Мікалай Кацко**, N7 **Валянцін Ермаліцкі**, N8 **Леанід Садкевіч**, N9 **Анатоль Багданец**.

У верасні бягучага году «Азот» плануе правесці ў Гродне міжнародны турнір па матаболе. Пры ўмове, што будуць знойдзеныя неабходныя грошы.

**Падрыхтаваў
Дзяніс Курчэўскі**

# Антысеміты з Радуні

**На радунскіх жыдоўскіх могілках антысеміты ўчынілі акт вандалізму, зьбіўшы пліту на месцы, дзе пажадаў быць пахаваным вядомы дзеяч Ізраілю Абрашке Кевіс /Адам Рагоўскі/, які паходзіць з Радуні. Яшчэ раней здзеку падвергнуліся жыдоўскія і татарскія могілкі.**

**Віталь Куплевіч,
г. Воранава**

ПАГОНЯ
Заснавальнік: Гродзенскае грамадскае аб'яднанне "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласным унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня» Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Нумар падпісаны да друку ў 16.00 22.08.2001 г. Замова 2381. Наклад 7 875

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць пагляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам. Аб'ём - тры ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Ірына Салей
Камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей